– ЗА НАШУ І ВАШУ ВОЛЮ! –

# ГРАМАДА



БЮЛЕТЭНЬ САВЕЦКАЙ РАДЫ БНФ „АДРАДЖЭНЬНЕ“ г.МЕНСК №1 1990 г.
ЛЮТЫ

**Мы падыходзім да выбарау і таму лічым неабходным звярнуцца зараз да цьмяных старонак гісторыі. Гэты артыкул Янкі Купалы быў надрукаваны ў часопісу "СПАДЧЫНА", №2, 1989, накладам 9056 асобнікаў, друкуем скарочана:**

Калі немцы, пасля бальшавіцкага перавароту у Расіі, занялі большую часць нашай тэрыторыі, кучка бальшавіцкіх камісараў, гаспадарыўшых раней у Менску, уцякла у Смаленск. Там, на чале з Калмановічам, Мясніковым і Яркіным, зрабіла маленькі унутраны пераварот. Яны аддзялілі ад Маскоўскай вобласці Смаленскую губерню і землі, паложаныя на захад ад Смаленшчыны, і арганізавалі так званую Западную вобласць, пераіначаную пасля на "Западную Камуну". Смаленцы крыху гэтаму працівіліся, але іх працаўнікі пастрашылі кулямётамі, і справа была выйграна.

Новы урад Западнай камуны, разумеецца, атрымліваў усе дырэктывы з Масквы і танцаваў так, як іграла Масква. Правы свае ён пашырыў на ўсю Беларусь, не занятую немцамі, а нават і далей.

Пры ўрадзе быў створаны камісарыят нацыянальных меншасцей (ліцьвінаў, палякаў, латышоў, жыдоў), апрача беларусаў. На чале гэтай установы стаяў пан Бэрсан. Аб Беларусі тады не можна было і заікнуцца. І калі з Масквы прыслалі чалавека, (бальшавіка) арганізаваць таксама і беларускі аддзел пры камісарыяце, то п.Бэрсан так спужаўся гэтага, што, каб не было ні вам, ні нам, скасаваў увесь камісарыят нацыянальных меншасцей. Такім чынам змагаліся смаленскія абласныя камісары з усялакімі, нават бальшавіцкімі праявамі беларушчыны.

Але немцы ачышчаюць Беларусь, Менск, Полацк, Барысаў і інш. Тады маскоўскія беларусы-бальшавікі, якія у той час кіравалі беларускім аддзелам пры камісарыяце нацыянальных меншасцей, прыехалі ў асобным вагоне у Смаленск з мэтай стварыць новы беларускі бальшавіцкі ўрад. Гэта было ў снежні 1918 г. Спачатку справа у іх ішла туга, так туга, што быў момант, калі Смаленскі ўрад хацеў іх арыштаваць. Але—далей-болей, неяк дагаварыліся і стварылі часовы урад "Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі". Старшынёй урада быў назначаны Жылуновіч (Цішка Гартны), а рэшта "портфелей" былі падзелены паміж Дылам, Мясніковым, Шантырам, Яркіным і іншымі. Гэты урад прыехаў у Менск, і 1 студзеня (?) была абвешчана "Незалежная Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка" у федэратыўнай сувязі з Маскоўшчынай. Адначасова стары беларускі урад "Рада Беларускай Народнай Рэспублікі і Рада міністраў Б.Н.Р." былі абвешчаны без абароны закону.

Пачалася на Беларусі бальшавіцкая гаспадарка. Але іхні "камунізм" не мог памірыцца з "Нацыяналізмам" беларускага народа. Трэба яшчэ дабавіць, што незалежную беларускую рэспубліку стварылі смаленскія і маскоўскія "беларусы" па загаду з Масквы. А зроблена гэта з тактычных мэтаў, назадзёр беларускай "буржуазіі", якая стаіць на грунце незалежнасці свайго краю.

Першыя дні бальшавіцкай гаспадаркі, асабліва тут, у Менску, падавалі надзею, што беларуская справа стане на добры дэмакратычны грунт. Бо як жа было іначай думаць? На чале "чрезвычайкі" стаяў не Яркін, вядомы у Смаленску сваей крывавай ненасытнасцю, а нейкая другая асоба. Так што спачатку і расстрэлы рэдка былі чутны. Пачалі выдаваць "Известия" на 4-ох мовах: расійскай, беларускай, польскай і жыдоўскай (выйшла 4 ці 5 нумароў). Не касавалі дробнага гандлю і не забаранялі прывозіць прадукт у места. Але гэты мядовы месяц савецкай улады на Беларусі цягнуўся не доўга.

Бальшавікі займаюць Вільню, касуюць "незалежную беларускую і г.д. рэспубліку", я сваіх бальшавіцкіх беларускіх "нацыяналістаў"—Шантыра, Дылу, Фальскага (Жылуновіч успеў к таму часу уцячы)—садзяць у вастрог, ствараюць ужо Літоўска-Беларускую са-

венкую і г.д. рэспубліку, урад якой засядае у Вільні.

Аб ніякай беларускай незалежнасці не было ужо і гутаркі. Аднак, трэба аддаць справядлівасці, дэкрэтамі не ганьбяць беларускай мовы у школах, у тэатрах.

Пры Менскім камісарыяце прасветы утвараюць літаратурна-выдавецкі аддзел, які папраўдзе шчыра заняўся падгатоўкай літаратурнага беларускага матэрыялу. Але сваёй карыснай працы гэты аддзел не мог як следна праявіць. Кіраўніка гэтага аддзела--вядомага, паважанага беларуса, прафесара Іваноўскага--бальшавікі па нагавору польскіх віленскіх камуністаў арыштавалі і вывезлі у Смаленск, як заложніка. І літаратурна-выдавецкі аддзел рассыпаўся. Аб друкаваным беларускім слове не было ужо і гутаркі. Дый сама савецкая Літ.-Бел. улада сядзела ужо як на падпаленай бочцы з порахам. Палякі занялі Вільню, пасунуліся да Маладзечна і пагражалі Менску. Гэтыя ваенныя няўдачы прывялі бальшавікоў у дзікую злосць. Яны пачалі шукаць вінаватых, разумеецца, як заўсёды не там, дзе трэба. Спачатку зрабілі "прылучэнне" Літ.-Бел. рэспублікі да Расіі (аб незалежнасці ужо не можна было і заікнуцца), пасля звярнулі увагу на малую працу "чрезвычайкі". І "чрезвычайка" сваю працу "павялічыла". Праца гэта мінчанам добра вядома. Курганы сотняў нявінна расстраляных аб гэтым і цяпер сведчаць. Над Менскам павіс крывавы кашмар. Людзі на вуліцах баяліся голасна гаварыць. Кожную ноч--павальныя вобыскі.

Але вось пачуліся першыя гарматныя, хоць яшчэ і далекія, стрэлы. Палякі занялі Радашковічы і паважна пагражалі Менску. Камісары уцяклі у Бабруйск, а адтуль у Смаленск.

І дзіўная рэч. З практыкі гэтай вайны вядома, што калі вораг прыбліжаецца к якому месцу і пачне даносіцца да вуха жыхароў страляніна, то гэтым нападае на усіх жудасць і паніка. У нас у Менску гэта выйшла якраз наадварот. Першыя выстралы прынеслі людзям радасць. Усе пачулі у гэтым вызваленне ад здзеку і грамадзянскага праліцця крыві.

8 жніўня палякі увайшлі у Менск, і для Беларусі пачалася новая эра. Была зараз жа распаўсюджана вядомая адозва Начальніка Польскай дзяржавы Язэпа Пілсудскага, у якой таксама, як мы ведаем, былі намёкі на незалежнасць і непадзельнасць Беларусі. Ці апраўдала гэта адозва затоеныя думкі і надзеі беларускага грамадзянства, ці польская ўлада павяла у нашым краі гаспадарку так, як гэтага вымагаюць культурна-нацыянальныя інтарэсы нашай бацькаўшчыны,--аб гэтым у другі раз.

Янка Купала
"Беларусь", № 2
3 студзеня 1920г.

---

/Друкуем першы ліст да рэдакцыі/

## ЯК ЖА З БЕЛАРУСЬСЮ ?

Так называўся артыкул Зьміцера Жылуновіча(Цішкі Гартнага) у газэце"Дзянніца" за 19 лістапада 1918 г. Ці можна паставіць гэтае пытаньне сёньня ? Самое жыцьцё вымагае яго пастаноўкі і вырашэньня. Ці суґучныя пытаньні, узьнятыя семьдзесят два гады назад, сёньняшнім ?

Паглядзім, што хвалявала сьвядомых беларускіх рэвалюцыянераў у тыя гады. "Увесь час, са дня расейскай рэвалюцыі, беларускае пытаньне няйначай прапушчаецца між пальцаў: яму не было удзелена ніводным складам праўіцельства жаднае увагі. Нібы якая ліхая прымха гэтаму перашкодзіць, нібы Мара таму віною, што усе, хто б мог гэта і меў сілу, баяцца дакрануцца да яго і знарочыста, ці забыўна адварочваюцца і ад думкі той, што ёсцека Беларусь,а значыцца ёсцека і беларускае пытаньне. Усе патугі звярнуць на гэта увагу каго належыць, разбіваюцца у дробкі, бы шкелка аб камень. Ні пастановы з'ездаў, ні патрабаваньні 10-тысячных мітынгаў--нішто не прабірае тоўстага слою поўнае абыякавасці ад столь значнай і важнай справы, як беларускае пытаньне. Наадварот, чым далей, тым болей расце нейкая сумысловая варожасць да яго у кіруючых колах".

Зьміцер Жылуновіч назваў Беларусь "гістарычна жывучы край". Так было. Татальныя войны з крыжакамі і татарамі, якія вяліся на працягу XIII-XVI ст. Барацьба з Маскоўскаю дзяржаваю у XV-XVIIIст. за незалежнасць Вялікага княства Літоўскага. Яшчэ К.Маркс у сваёй працы "Сьценька Разін" пісаў, што у XV ст. "Русь была тады падзелена на дзьве дзяржавы: Маскву і Літву". Такім чынам, існавала два цэнтры аб'яднаньня усходнеславянскіх зямель.

Два шведскіх нашэсці--у сярэдзіне XVII і у пачатку XVIII ст.ст., калі была зьнішчана ледзь не палова насельніцтва. Напалеонаўскае нашэсьце 1812 г. Але Беларусь не маўчала. 1794--паўстаньне на чале з беларусам Тадэвушам Касьцюшка. 1830-31--паўстаньне за аднаўленьне былой Рэчы Паспалітай. А у адказ--закрыцьцё Віленскага універсітэта, самай буйной навучальнай установы для беларускіх земляў (у 1833 г.). Скасаваньне уніі у 1833 г. (пасля далу-

/працяг на стар.4/

# ЗВАРОТ ДА КАМУНІСТАЎ БЕЛАРУСІ

Мы, коммунисты предприятия "Белэнергоремналадка", осознавая свою ответственность за судьбу перестройки в республике, обвиняем руководство республики и ЦК КПБ в следующем:

1. Авария на Чернобыльской АЭС стала причиной радиационного заражения значительной части территории республики, подвергнув ее население испытанию на выживание.

От населения в течении 3-х лет было скрыто фактическое положение дел по зараженности территории и об опасности для здоровья людей в этих районах. Не принимались необходимые меры по защите здоровья населения, медицинская помощь пострадавшим до сих пор находится на крайне низком уровне.

Народ республики оказался ненужным ее руководителям. Мы считаем этот факт должностным преступлением перед народом республики.

2. События 30 октября 1988 года с применением газов и дубинок к участникам мирной манифестации у Восточного кладбища и в Куропатах показали всю политическую безграмотность ЦК КПБ в условиях демократизации нашего общества. Еще более гадкими и неуклюжими выглядели попытки по-школярски спрятаться от содеянного. С этой целью была организована дезинформация партийных, профсоюзных организаций и всего населения республики в целом. Ложь о событиях распространялась через печатные органы ЦК, радио и телевидение.

Мы считаем, что ЦК КПБ причастен к лживым выводам комиссии, расследовавшей события 30 октября. До сих пор никто из организаторов разгона митинга и дезинформации населения не наказан и ЦК не дал политическую оценку этим событиям.

3. Решения XIX партконференции, направленные на демократизацию общества, игнорировались ЦК КПБ. По-прежнему остается жесткая цензура со стороны ЦК источников информации населения, зажим критики. Профанированы демократические начала в экономике, созданы бесправные СТК, выборность руководителей подменили "одобрением" деятельности начальника.

По-прежнему преследуются организаторы общественно-массовых мероприятий, проводимых неформальными организациями.

4. Дискредитацию кооперативного движения в глазах народа мы видим как хорошо организованный и заранее спланированный акт со стороны властей. Вместо того, чтобы арендно-кооперативное движение внедрять в промышленности и охватить этим движением широкие массы, сосредоточив основное внимание на производстве товаров для населения, двери в кооперацию были открыты шашлычникам и уголовным элементам. Отсуствие контроля над доходами привело к обогащению всякого рода проходимцев, спекуляции и коррупции чиновников государственных организаций.

Теперь заодно с ворами компрометируются и честно работавшие кооперативы.

5. В последнее время в республиканской партийной организации появился целый ряд открытых писем и обращений в ЦК КПБ об ухудшении состояния в экономике, социальной сфере, экологии, здравоохранении, торговле, производственной дисциплине и т.д., указавшие на несостоятельность нынешнего руководства в решении этих задач.

Вместе с тем, есть обращения, которые призывают ЦК КПБ вернуться к безнадежно канувшим в лету временам стагнации: считать политической ошибкой перевод общества "Знание" на хозрасчет (т.е. издание газеты "Аргументы и факты"), дать народу как можно больше дешевой водки и разогнать неформалов. Удивительным остается то, что ЦК КПБ не реагирует на эти черносотенные призывы. Нет официальных ответов и на другие обращения. Складывается такое впечатление, что ЦК КПБ существует сам по себе.

В связи с вышеизложенным, мы считаем ЦК КПБ несотоятельным в решениях задач, поставленных жизнью нового времени и требуем немедленной отставки ЦК КПБ и организации прямых выборов на альтернативной основе, проведения внеочередного съезда КПБ.

Если ЦК КПБ не посчитается с нашими требованиями, мы оставляем за собой право принять решение о приостановке перечисления членских взносов в партийную кассу до полного исполнения вышеуказанных требований.

ДЕКАБРЬ 1989г.

Всего 50 подписей

/працяг са стар.2/

чэньня Беларусі да Расейскай імпе - рыі 75 % насельніцтва Беларусі было уніятамі). 1840--забарона назвы Беларусі перайменаваньне ў Паўночна-Заходні край Расеі. Але ў 1863 г. новае паўстаньне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, а ў адказ--20 гадоў ваеннага становішча.

Згадайма беларускае адраджэньне пачатку XX ст., якое скончылася масавымі рэпрэсіямі дзеячоў адраджэньня ў час сталіншчыны. Якія пакуты перанёс народ Беларусі ў першую і другую сусветныя войны ! А час павальнага выцясненьня белару скай культуры пры Брэжневе? Ці не зашмат ? Калі вытрымалі столькі--вытрымаем зараз ? Павінны ! Бо стаіць пытаньне аб фізічным і духоўным выжываньні народу.

Што мы можам зрабіць сеньня ? Выбраць у Саветы сапраўдных прадстаўнікоў народа, якія маглі бы сказаць слова праўды, прыняць патрэбныя людзям законы, ажыцьцявіць кантроль над іх выкананьнем. Так ня будзем жа спаць! На талерцы ніхто нам нічога не паднясе. Нядаўнія падзеі ў суседніх краінах паказваюць нам, што дэмакратыя перамагае там, дзе ўсе разам сваім словам і справай падтрымаюць яе.

Нельга дапускаць, каб рэакцыйныя сілы скарысталіся тымі цяжкасцямі, якія нас напаткалі і яшчэ напаткаюць пад час рэформ. Мудрыя і разважлівыя людзі жывуць на гэтай зямлі, яны мусяць выбраць "дарогу да храма". Як перасьцярогаю гучаць сеньня словы з кнігі "Апокрисис" (1599. Вялікае княства Літоўскае) аб пагрозе "унутранай вайны": "За примушаньем пришло до васни, з васни до ростырков, с ростырков до розорванья, з розорванья до внутрной войны, которая межи всеми злыми речами на свете ест найгоршею: бо взрушенье права и Божого и природженого, кгвалты, пожоги, наезды, крви розлянье, спустошенья, а коротце мовячи--вшелякие кшалты злых припадков в собе замыкает".

Так, цяжкія матэрыяльныя нягоды напаткалі нас. Адныя ратуюцца ад такога жыцьця поўным раўнадушшам да палітычных падзей. Але яны з'яўляюцца прадуктамі гэтай сістэмы, а крытычная маса павялічваецца, і з прадуктаў сістэмы гэтыя людзі могуць стаць яе зьнішчальнікамі, але якімі мэтодамі? Другія назіраюць, як разьвіваюцца падзеі і чакаюць, што будзе далей.

Шаноўныя, калі мы направім сваю энэргію ў патрэбнае русла--русла грамадзянскай актыўнасьці, то хутчэй дасягнем жадаемага. У нядаўнім інтэрв'ю газеце "Советская молодёжь" Б.Ельцын сказаў:"Як выказаўся Кант, толькі здольнасьць галасаваць складае кваліфікацыю грамадзяніна. Так вось, я вельмі веру ў кваліфікацыю грамадзян Масквы". Праўда, ёсць над чым задумацца?

Міхась Валюжыніч

ДЕМОКРАТИЧЕСКИЕ КАНДИДАТЫ, ПОДДЕРЖИВАЕМЫЕ БНФ "АДРАДЖЭНЬНЕ" В СОВЕТСКОМ Р-НЕ

В РЕСПУБЛИКАНСКИЙ СОВЕТ БССР

| № окр. | Ф.И.О. | тел.дом. |
|---|---|---|
| 33 | Трусов О.А. | 49-70-30 |
| 35 | Заблоцкий В.Н. | сл.34-96-92 |
| 36 | Беленький Ю.А. | 39-63-38 |
| 37 | Малько М.В. | 32-72-50 |
| 38 | Лиштван И.И. | 34-96-60 |

В ГОРОДСКОЙ СОВЕТ г.МИНСК

| № окр. | Ф.И.О. | тел.дом. |
|---|---|---|
| 166 | Межуев Е.П. | 62-37-12 |
| 167 | Андросов С.А. | 61-27-41 |
| 168 | Ляльков С.В. | 61-07-73 |
| 169 | Асташенко П.П. | |
| 171 | Стельмах Г.П. | сл.26-58-78 |
| 172 | Левчук В.С. | 61-02-59 |
| 173 | Мартынов Н.Г. | 61-63-61 |
| 174 | Ивашкевич В.А. | 66-58-87 |
| 176 | Баранов Г.В. | сл.31-87-63 |
| 177 | Яницкий Л.М. | 78-25-65 |

В ГОРОДСКОЙ СОВЕТ г.МИНСК

| № окр. | Ф.И.О. | тел.дом. |
|---|---|---|
| 178 | Бартлов Л.Э. | 31-65-17 |
| 179 | Копыл И.Ф. | 31-25-61 |
| 181 | Шостакович А.В. | 36-40-06 |
| 182 | Никифоров Э.Я. | 32-02-87 |
| 183 | Паньков М.В. | 63-75-72 |
| 184 | Несцер В.П. | сл.39-94-32 |
| 186 | Савенков В.П. | 48-17-10 |
| 187 | Завадский А.Л. | 34-47-95 |
| 190 | Гуринович А.В. | 39-14-89 |
| 193 | Сивчик В.В. | 36-68-17 |
| 194 | Беленький Ю.А. | 39-63-38 |

В РАЙОННЫЙ СОВЕТ г.МИНСК

| № окр. | Ф.И.О. |
|---|---|
| 1 | Копач Е.М. |
| 9 | Закревский А.А. |
| 20 | Жуков В.И. |
| 44 | Баровская Н.Е |

Список кандидатов может быть изменён и дополнен в следующем очередном номере "ГРАМАДЫ"

Пишите нам по адресу:220131, Менск-131, а/я 139 (тел.справоч.61-74-47)

"ГРАМАДА" № 1, ЛЮТЫ, 1990г. Падпісана да друку 14.02.90. Наклад 10000. Друкарня Марціна Кухты